Пролетарыі усіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 23

КАСТРЫЧНІК 1934 Г.



МЕНСК — 1934

# I. Афіцыйны аддзел.






## Пастанова № 1932

### Совета Народных Камісараў СССР

17 жніўня 1934 г.

### Палажэнне аб участковых інспектарах Народна-Гаспадарчага Учота.

Совет Народных Камісараў Союза ССР Пастанаўле:

1. Участковы інспектар Народна-Гаспадарчага Учота з'яўляецца первічным звеном централізаванай сыстэмы Народна-Гаспадарчага Учота і ў мэжах абслугоўваемага ім участка праводзіць учотна-статыстычную работу па сельскай гаспадарцы, прамысловасці, будаўніцтву, лікавасці і дынаміцы насельніцтва і культурна-бытавому абслугоўванню.

2. На участковага інспектара ўскладаюцца наступныя задачы:

а) арганізацыя і правядзенне работ па суцэльным і выборачным перапісам і іншым учотна-статыстычным апарацыям, а таксама арганізацыя кантрольных абходаў кантрольных абмераў і іншых кантрольных статыстычных работ;

б) кантроль за пастаноўкай учотна-статыстычнай работы у сельскіх советах і інструктаж іх;

в) кантроль за пастаноўкай учотна-статыстычнай работы у арганізацыях і прадпрыемствах, у асаблівасці у калгасах, якія знаходзяцца на тэрыторыі участка, і інструктаж іх, як непасрэдна, так і праз адпаведныя раённыя арганізацыі, МТС і г. д

г) праверка правільнасці справаздачных звестак і матарялаў, якія прадстаўляюцца ў раённыя органы сельсоветамі, калгасамі, будаўніцтвамі, школамі, бальніцамі і іншымі прадпрыемствамі і арганізацыямі; выяўленне разнага рода скажэнняў і неправільных учотных данных і прынящце захадаў да іх выпраўлення;

д) выяўленне бюрократычных ізвращчэнняў ў пастаноўцы учота і справаздачнасці сельсоветаў, калгасаў і іншых прадпрыемстваў і арганізацый і барацьба з гэтымі ізвращчэннямі.

3. Участковы інспектар праводзіць праверку становішча учотна-статыстычннай работы і правільнасці учотна-статыстычных звестак і матар'ялаў, як шляхам азнаямлення з гэтымі матар'яламі і дакумэнтамі на месцы у сельсовеце, калгасе, на будаўніцтве, на прадпрыемстве і г. д. так і шляхам абхода паасобных гаспадарак і пытання грамадзян.

4. Пры выяўленні незаконна уведзенай для сельсаветаў і калгасаў справаздачнасці участковы інспектар ізымае формы гэтай справаздачнасці і не дапускае яе прадстаўлення, з аднача́совым паведамленнем аб гэтым раённаму інспектару Народна-Гаспадарчага учота для прыцягнення вінаватых да адказнасці.

Пры выяўленні незаконнай справаздачнасці у другіх арганізацыях, якія знаходзяцца на тэрыторыі участка (соўгасах, прамысловых прадпрыемств, на будаўніцтвах і г. д), участковы інспектар даводзіць аб іх да ведама раённага інспектара Народна-Гаспадарчага Учота для адмены незаконнай справаздачнасці і прыцягнення вінаватых да адказнасці.

5. Участковые інспектары Народна-Гаспадарчага Учота назначаюцца і звальняюцца рэспубліканскімі, краявымі альбо абласнымі кіраўніцтвамі Народна-Гаспадарчага Учота.

6 Участковы інспектар непасрэдна падпарадкваецца раённаму інспектару Народна-Гаспадарчага Учота і працуе па яго заданням.

Ускладанне на участковага інспектара якіх-небудзь заданняў раённымі і сельскімі арганізацыям паміма раённага інспектара Народна-Гаспадарчага Учота забараняецца.

7. У сваей рабоце участковы інспектар апіраецца на грамадзкі актыў сельсоветаў і калгасаў і прыцягвае грамадзкія арганізацыі для правядзення учотна-статыстычных работ і кантроля учотна-статыстычных матар'ялаў.

8. Участковы інспектар мае права прысутнічаць на паседжаннях сельсоветаў і праўленняў калгасаў, якія знаходзяцца ў межах яго участка, і ставіць перад імі пытанні якія датычацца арганізацыі учота і справаздачнасці і правядзення учотна-статыстычных работ.

9. Утрыманне участковых інспектароў Народна-Гаспадарчага Учота адносіцца на сродкі агульнасаюзнага бюджэта.

Мейсцазнаходжанне участковага інспектара вызначаецца рэспубліканскімі, краявым альбо абласным кіраўніцтвам Народна-Гаспадарчага учота па прадстаўленню раённага выканаўчага камітэта.

Памяшканне для заняткаў участковага інспектара, а таксама гаспадарчае абслугоўванне (уборка асвятленне, апал, карыстанне тэлефонам) прадастаўляюцца бесплатна тым сельсоветам, на тэрыторыі якога арганізуецца участковая інспектура.

Старшыня Совета Народных Камісараў
Союза ССР *Молатаў*

Кіраўнік Спраў СНК СССР *Мірошнікаў*

---

## Совет Народных Камісараў БССР.

**г. Менск.** **4 кастрычніка 1934 г. № 134.**

**Усім Райвыканкомам.**

Неглядзячы на маючыяся дырэктывы Саюзнага Урада аб сазданні неабходных умоў для работы раённай інспэктуры Наргасучота, у радзе раёнаў БССР наглядаюцца недапушчальныя і неуважлівыя адносіны да гэтага пытання.

У прыватнасці, уноў зацверджанныя інспектары Наргасучота, не забяспечваюцца кватэрамі (Рагачоў, Полацк, Заслаўль, Орша, Гарадок, Слуцк, і інш ), што не дае магчымасці весці ім сваю работу.

Аршанскі РВК, пры наяўнасці добрага памяшкання, займаемага ім і яго аддзеламі , адвеў для інспэктуры цесную клетушку у двары, дзе няма магчымасці працаваць.

СНК БССР прапауе усім РВК забяспечыць адпаведнымі умовамі для работы інспэктуры Наргасучота.

Старшыня СНК БССР *Галадзед.*

---

# Пастанова

## Совета Народных Камісараў Саюза ССР

„26“ верасня 1934 г.

**Аб дапаўненні справаздачнасці Райвыканкомаў па сельскай гаспадарцы**

У дадатак да пастановы ад 15 студзеня 1934 г. № 109 „Аб абавязковай справаздачнасці і формах учота і рахункаводства ў калгасах“—Совет Народных Камісараў Саюза ССР пастанаўляе:

Уключыць у перачань абавязковай справаздачнасці Райвыканкомаў па сельскай гаспадарцы:

1) Справаздачу аб рабоце і становішчы коняводчай таварнай формы па ферме № 24 . . . . . . месячная;
2) Справаздачу аб ходзе конскай злучной кампаніі па коняводчай таварнай ферме па форме № 25 . . . дэкадная;
3) Заключную справаздачу аб ходзе конскай злучной кампаніі па коняводчай таварнай ферме—па форме № 26 . . . . . . . . . . . разавая;
4) Справаздачу аб фермах буйнай рагатай жывёлы, свінаводчых і аўцаводчых—па форме № 20 . . . . . месячная;
5) Справаздачу аб кролікаводчай таварнай ферме № 27 . . . . . . . . . . месячная;
6) Справаздачу аб становішчы пчалаводства па таварнай форме—па ферме № 28 . . . . . . разавая.

Нам. Старшыні Савета Народных
Камісараў Саюза ССР *Куйбышаў*.

---

# Загад № 1935

## па Народнаму Камісарыяту Снабжэння Саюза ССР

ад 15 жніўня 1934 г.

Аб снабжэнні раённых і гарадзкіх інспектароў Народна Гаспадарчага Учота.

У выкананне пастановы Совета Народных Камісараў Саюза ССР ад 4 жніўня 1934 г. № 1840, прыраўняць па снабжэнню да райактыва раённых і гарадзкіх інспектароў Народна-Гаспадарчага Учота у колькасці 2761 чалавек.

Участковых інспектароў Народна-Гаспадарчага Учота у колькасці 7955 чалавек прыраўняць да настаўнікаў сельскіх школ.

Паказаны парадак снабжэння увесці з 4-га квартала 1934 года.

Нам. Народнага Камісара,
Снабжэння Саюза ССР. *Хлоплянкін.*

---

## Загад № 416

### па Кіраўніцтву Наргасучота БССР.

**ад 10/х-34 г.**

У звязку з пачаўшайся кампаніяй перавыбараў советаў прапаную цэнтральнаму і раённаму апарату КНГУ уключыцца ў перавыбарную кампанію.

Усім раённым інспектарам прапаную аказваць дапамогу мясцовым совецкім органам у падрыхтоўцы справаздач аб рабоце советаў, прадаставіўшы ім маючыяся у распараджэнні інспектуры учотныя матэрыялы.

Начальнікам сектароў КНГУ у двухдэкадны тэрмін падрыхтаваць да друку кароткі даведнік „БССР у лічбах".

Персанальную адказнасць за складанне і выданне даведніка ускладаю на тав. Петрушэню. Агульнае кіраўніцтва гэтай работай—на тав. Кацнельсона.

Начальнік КНГУ БССР *Владзімірскі.*

---

## Загад № 416

### па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота

**ад 10 кастрычніка 1934 г.**

§ 3.

За невыкананне майго указання аб укамплектаванні участковых інспектвроў, што даказвае недаацэнку гэтай важнейшай для органаў Наргасучота палітычнай справы,

абвяшчаю суровую вымову Полацкаму інспектару т. Мізараву і Дзяржынскаму інспектару т. Міронавай.

Папярэджваю, што калі да 15 кастрычніка участковыя інспектуры не будуць укамплектаваны, да раённых інспектароў будуць прыняты больш суровыя меры

Начальнік Кіраўніцтва
Наргасучота БССР *Владзімірскі.*

---

# II. Работа КНГУ і яго сыстэмы.

## Работа участковага Інспектара ў цэнтр увагі.

Якасць работы раёных інспектур наргасучота ўсе яшчэ працягвае знаходзіцца на нізкай ступені.

Друкуемы намі з месяца ў месяц ўчот якасці і работы інспектур з указаннем прарываў па паасобным работам у кожнай інспектуры яскрава паказвае, што большая частка з іх сыстэматычна знаходзяцца у 2-й і 3-й катэгорыі, г. зн. заўсёды знаходзяцца ў прарывах, ужо не гаворачы аб тых інспектурах, якія знаходзяцца у 4-й катэгорыі безпрарыўна, як напрыклад: Горацкая, Крычаўская, Нараўлянская і інш., гэтыя інспектуры як бачна зусім не турбуюцца аб ліквідацыі сваіх прарываў і лічаць, што такое ганебнае становішча можа працягвацца і далей. Безумоўна, да гэтых інспектур Кіраўніцтву Наргасучота прыходзіцца прыняць асобныя мерапрыемствы, якія самі па сябе напрашваюцца.

Але астатнія інспектуры, якія знаходзяцца у 2-й і 3-й катэгорыі павінны раз назаўсёды пакончыць з прарывамі у 1934 г. з тым, каб 1935 г. пачаць і правадзіць без ніякіх прарываў, а магчымасці зараз у кожнай інспектуры маюцца.

Асноўнай прычынай наяўнасці прарываў у інспектурах (а адсюль і прарывы у сектароў Кіраўніцтва), гэта тое, што інспектарам дастаўляецца матар'ял несваечасова і недобраякасны.

І вось тут і прышла канкрэтная дапамога з боку партыі і ўраду у сэнсе арганізацыі участковых інспектароў, якія непасрэдна знахадзясь у первічных арганізацыях і прадпрыемствах павінны будуць прымусіць іх наладзіць правільны учот і справаздачнасць.

Но зусім памылкова будзе лічыць, што патрэбна толькі расставіць участковых інспектароў па сельсоветам і гэтым учотна-статыстычная справа ўсюды адразу наладзіцца.

Неабходна ўразумець, што участковыя інспектары у большасці сваей, людзі амаль зусім не ведаючыя учотна-ста-

тыстычную справу і без канкрэтнай штодзённай дапамогі і кіраўніцтва з боку раённых інспектароў, асабліва ў першы час іх работы, яны з ускладзенымі на іх задачамі не спраўяцца.

А таму, кожнаму раённаму інспектару неабходна заразжа наладзіць аперацыйнае кіраўніцтва участковымі інспектарамі, на справе паказаць як патрэбна наладзіць учот і справаздачнасць у сельсоветах, калгасах, соўгасах і прадпрыемствах; прапрацаваць з імі кожную справаздачную форму, паказаць як патрэбна утвараць кантроль па кожнай справаздачнасці паасобку, не забываючы, што ад якасці работы участковага інспектара залежыць работа райінспектара.

Патрэбна яшчэ указаць на неправільную установку некаторых райінспектароў (Буда-Кашалева, Клічаў), у тым, штво учатковы інспектар па іх думцы з'яўляецца перадатачным пунктам ад сельсовета да райінспектуры, што участковы інспектар быццам павінен збіраць увесь справаздачны матар'ял па свайму участку і адвазіць раённаму інспектару. Гэта думка безумоўна неправільна.

Арганізацыяй участковых інспектароў немысліцца ўтвараць лішнюю інстанцыю, а на іх ускладзены задачы: наладзіць, з дапамогай райінспектара і пад яго кіраўніцтвам первічны ўчот і справаздачнасць ва ўсіх арганізацыях свайго участка і праводзіць спецыяльныя учотна-статыстычныя работы па асобным даручэнням органаў Наргасучота, прыцягвая да справы учота ўсіх працоўных з тым, каб стварыць учот усенародным.

Вось гэта асноўная задача участковых інспектароў, якую ад іх раённы інспектар павінен патрабаваць і ў чым ім патрэбна дапамагаць.

*Магідаў.*

---

## За высокаякасны і праведзяны ў вызначаны тэрмін перапіс бібліятэк.

„Цяпер калі наша краіна у асноўным стала пісьменнай, калі цяга да ведаў у масах так грамадна, што ніякія школы не могуць абслужыць дарослых, жадаючых учыцца і пытанні самаадукацыі выстаўляюцца на першы план, прасоўвання у масы праз бібліятэкі патрэбных насельніцтву кніг і набывае асобае значэнне".

*(Н. К. Крупская).*

В. І. Ленін прыдаваў грамаднае значэнне бібліятэчнай справе, як магутнаму сродку у справе узбраення мас ведамі. Таму ужо з першых дзен рэвалюцыі, ён значную увагу удзяляе пытанню максымальнага скарыстання бібліятэчнага кніжнага фонду і арганізацыі работы бібліятэк з тым, каб бібліятэкі абслугоўвалі сваечасова усе насельніцтва патрэбнай яму кнігай, задавальнялі усе растушчую патрэбнасць мас у ведах, шырыла іх гарызонт адказвала на іх запатрабаванні.

Цяга да кнігі працоўных мас горада і вескі асабліва узрасла ў сувязі з паспяховым завяршэннем плана вялікіх работ першай пяцігодкі і пераможнага ажыццяўлення праграмы работ другой пяцігодкі.

Ажыццяўляючы лозунг правадыра партыі і рабочага класа тав. Сталіна аб уладанні тэхнікай рабочыя і калгасныя масы прад'явілі вялічайшы попыт на тэхнічную кнігу і запатрабавання па арганізацыі дапамогі карыстання кнігай.

Агульны рост матар'яльнага дабрабыту шырокіх працоўных мас і усе растушчыя іх культурныя запатрабаванні ставіць перад намі задачу палепшыць арганізаваную дапамогу у папаўненні сваіх ведаў унешкольным шляхам.

Вялічэзную роль і у гэтай справе павінны адыграць бібліятэкі.

Арганізуючы рабочага і калгаснага чытача навакол сябе, дапамагаючы яму ў выбары што чытаць, прыцягваючы ўсё новых і новых чытачоў—бібліятэкі павінны стаць моцнай зброяй у перавыхоўванні мас іператварэнні іх у актыўных будаўнікоў соцыялізма.

Аднак становішча бібліятэчнай сеткі у сучасны момант нас ні у якім разе не можа задаволіць. Адстаюць бібліятэкі (значная частка з іх) і у рабоце з чытачамі. Улік бібліятэк у сучасным яго становішчы, а тым больш іх работы не дае магчымасці аператыўным і плануючым органам перабудаваць сетку работы бібліятэк у адпаведнасці з запатрабаваннямі сучаснага перыяда будаўніцтва соцыялізма. Есць многа "дзікіх" бібліятэк а якіх ня ведае не толькі наркамат асветы, а нават акаляючае насельніцтва.

Задача састаіць у тым, каб кніжныя фонды упарадачыць і работу бібліятэк прыстасаваць для запатрабавання насельніцтва абслугоўваемага даннай бібліятэкай.

Усесаюзны перапіс бібліятэк, які праводзіцца зараз (з 1/X па 20/X) па БССР і павінен даць дакладные добраякасные учотные данные, якія з'явяцца матар'ялам у рабоце па палепшанні усей бібліятэчнай справы у БССР.

Пастановай ЦВК СССР, правядзенне перапісі ускладае на Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учоту, Наркамасветы і ВЦСПС.

Зусім зразумела, што поспех гэтага перапісу будзе цалкам забяспечан, калі да яго правядзення будзе прыцягнута партыйная, савецкая і профсаюзная грамадзкасць шырокія колы саміх чытачоў.

Першыя дні перапісу паказалі, што не усюду зразумелі важнасць перапісу бібліятэк. У радзе раёнаў гэта справа пушчана на самацек. У Смалевіцкім (інспектар Наргасучота т. Верцінскі РайАНО т. Гарбачэнко, Райпрофсавета т. Быкман) Клімавіцкім (інспектар Наргасучота т. Давідаў, РайАНО т. Косабеўскі, Райпрофсавет, т. Пікман), Чэрвенскім (інспектар Наргасучота т. Бабіцкі Райпрофсавета т. Суфтановіч), Полацкім (інспектар Наргасучота т. Мізароў РайАНО т. Іванова Райпрофсавета т. Рыўкін), Дзяржынскім (інспектар Наргасучота т. Міронова РайАНО Райпрофсавета т. Рымашэўскі) раёнах фактычна сарвана папярэдняя падрыхтоўку да перапісу, і надзвычайна марудна праводзяць і самы перапіс.

Ні Райкомы ні РВК гэтых раёнаў не палічылі патрэбным праверыць як праводзіцца ў жыцце у іх раёне пастанова ЦВК СССР аб перапісу бібліятэк.

Патрэбавалася спецыяльнае тэлеграфнае ўказанне ЦК

КП(б)Б і СНК БССР, каб партыйнае і савецкае кіраўніцтва гэтых раёнаў зацікавілася перапісам.

Агульным недахопам у правядзенні перапісу па значнай частцы раёнаў—гэта зусім слабае прыцягненне да перапісу бібліатэчных работнікаў і у асаблівасці чытачоў.

Дырэктыўныя паказанні ЦК ЛКСМБ, Райкомам камсамола аб актыўным удзеле у перапісу і спэцыяльны ліст сакратара ЦВК БССР тав. Левкова ў радзе раёнаў ігнаруецца, а інспектары Наргасучоту і загадчыкі РайАНО гэтых раёнаў нездолелі праз мясцовыя і савецкія партыйныя арганізацыі прымусіць каго гэта патрэбна, безумоўна ажыцявіць указанне ЦК ОЛКСМБ і ЦВК БССР.

Прыкладам правільнай арганізацыі перапісу з'яўляецца Віцебск (інспектар Наргасучоту тов. Шмэтар, Загадчык РайАНО т. Ражанскі Райпрофсавет т. Яско) Бабруйск (інспектар Наргасучета т. Леўковіч Загадчык РайАНО т. Цеханскі Райпрофсавет т. Блюмкін), Чачэрск (інспектар Наргасучота т. Горбачоў РайАНО т. Шчаперко Райпрфосавета т. Черкаў). У гэтых раёнах—інспектара здолелі актывізыраваць Райпрофсавет і Райано, дабіліся чоткай арганізацыі перапісу не дапусціўшы, аб'езлічкі.

Прыцягнулі да перапісу бібактыў і мясцовую партыйную і савецкую грамадзкасць, паставіў такім чынам перапіс у цэнтр увгі грамадзкасці раёна.

Аднак такіх раёнаў яшчэ на жаль надзвычайна мала. Становішча перапісу бібліатэк пакуль што трэба прызнаць нездавальняючыя. Недахопы дапушчаныя у працэсе падрыхтоўчай работы трэба выправіць у ходзе самаго перапісу. Дадатковае выяўленне бібліатэк і іх дакладны улік трэба забясьпечыць неадкладна. Райкомы ЛКСМБ павінны улічыць усю сэр'ёзнасць указання ЦК ЛКСМБ і па дзелавому ўключыцца у перапіс.

Тэлеграма ЦК КП(б)Б і СНК БССР павінна паслужыць перасцярогай усім раёнам.

Пастанова Урада аб перапісу бібліатэк павінна быць выканана ў тэрмін і дабраякасна. *Шындлер.*

**Менск Белнаргасучот Цэнтральнаму савету прафсаюзаў**

З ЛЕЛЬЧЫЦ

Перапіс бібліатэк раёну скончан дзевятаго тчк

*Грыцкевіч Сыланцеў.*

**Менск Наргасвучоту Наркомасветы**

З ПРОПОЙСКА

Перапіс бібліатэк Прапойскаму раёну закончан тчк

*Высоцкі Сомоў.*

## Сэктору Учота Культуры і быта

Віцебская іспектура Н. Г. Вучота паведамляе, што перапіс бібліятэк па г. Віцебску скончан. Матар'ял праверан. прыступілі за складання зводак ф. 3. і 4.

Інспектар Н. Г. В. *Шметар.*
Экономіст *Волчок.*

Касрычнік 10 дня 1934 год.

---

## Праверка сельсавецкага учота ў Чачэрскім раёне

Па завядзенню кніг формы № 3 праведзена нарада сакратароў сельсаветаў.

Адначасова з гэтай работай вытваралася праверка вядзення кніг ф. № 3 у 1934 г. Ва ўсіх праверaных 19 сельсаветах кнігі вядуцца з рэгулярнай адзнакай выканання: збожжапаставак, мясаздачы і малакапаставак; на ўсе с/саветы адзначаюць выкананне фінансавых плацяжэй. Гэтым с/саветам прапанована ў 3-х дзенны тэрмін выправіць усе заўважаныя недарэчнасці.

Сумесна з Райаддзелам НКУС на гэтых-жа нарадах праведзена праверка вядзення кніг ЗАГС'а ў с/саветах. З 19 с/саветаў кнігі ЗАГС'а ня точна вёў толькі адзін с/савет (Падасоўскі).

Па-моему, неабходна было бы прапанаваць усім райінспэктурам: 1) правесці праверку вядзення кніг ф. № 3 на нарадах, так як гэта дае мажлівасць сакратарам с/саветаў абменівацца думкамі і устанавіць адзіную сістэму вядзення кніг у с/саветах (нумарацыя гаспадарак, адрозніванне калгаснікаў і аднаасобнікаў); 2 (сумесна з Райаддзелам Нар. Кам. Унутраных Спраў вытварыць праверку вядзення кніг ЗАГС'а ў сельсаветах, так як па большасці с/саветаў (як выяўлена пры праверцы) акты рэгістрацыі смерці вядуць нерэгулярна і зачастую не учытываюцца; 3) устанавіць, альбо рекамендаваць у парадку спаборніцтва вытвараць праверку вядзення кніг у мяжуючых сельсаветах іншага раёна прадстаўнікамі лепшага сельсавета. Так, брыгада Чачэрскага раёна кіраўнік Балыкоў) устанавіла, што у Сівенскім с/савеце Веткаўскага раёна кнігі за 1934 г. зусім не вядуцца. Вынікі такіх праверак друкаваць у „Інфармацыйным бюлетэні".

Гэтакія праверкі устанавілі бы—як вядуцца кнігі у асобных раёнах (ці есць аднасістэмнасць).

Чачэрскі інспектар НГУ *Гарбачоў.*

2/Х-1934 г.

**Ад рэдакцыі:** Змешчаючы гэты ліст інспектара Наргасучота Чачэрскага раёна т. Гарбачова, рэдакцыя лічыць, што правядзенне нарад работнікаў с/саветаў вельмі мэтазгодна для інструктажу. Што датычыцца праверкі вядзення сельсаветамі першічнага учота па новым кнігам і формам, дык праверку гэту неабходна праводзіць не шляхам склікання нарад, а шляхам абследвання пастаноўкі учота на месцы у кожным сельсавеце, бо толькі такім чынам (а не на нарадах) магчыма выявіць сапраўднае становішча справы учота ў сельсавеце.

---

## Очкауцірацеляў—да адказнасці.

(па матар'ялам Чашніцкай райінспектуры).

Старшыня Вяцерскага сельсавета (Чашніцкага р-на) т. Шыдлоўскі (камуніст) замест сапраўднай барацьбы і мабілізацыі мас на выкананне плана азімай сяўбы, стаў на шлях ашуканства дзяржавы, на шлях очкауцірацельства партыйным і савецкім раённым арганізацыям. У мэтах хучшэйшага аканчэння сяўбы па сельсавету і дачы рапарта раённым арганізацыям. Шыдлоўскі прапанаваў старшыні калгасаў даваць у зводках павялічаныя лічбы азімых пасеваў. Так па калгасу „Будаўнік“ замест засеяных на 1 верасня 15 га было паказана аб сканчэнні пасева у колькасці 45 га, па калгасу „В. Ліпавічы“ замест фактычна засеянных 30 га паказана 63 га, па калгасу „Аўсянікі“ замест засеяных 19 га—паказана 29 га, па калгасу „Вяцера“ замест засеяных 39 га —паказана 89 га па калгасу „Гразіна“ замест 13 га—паказана 30 га і г. д. Пры праверцы раённымі арганізацыямі фактычнага пасева па сельсавету, старшыня сельсавета Шыдлоўскі усяляк імкнуўся увесці у заблуждзенне раённые арганізацыі і даказаць сваю правату, але-ж абман і очкауцірацельства былі выкрыты.

Як паведамляе інспектура Наргасучота Чашніцкага раёна, старшыня Вяцерскага сельсавета Шыдлоўскі пастановаю бюро Райкома партыі з працы снят з абвяшчэннем яму суровай вымовы.

Паказаны прыклад з „дзейнасці“ старшыні Вяцерскага с/савета Шыдлоўскага яскрава гаворыць за тое, што раённыя і участковыя інспектары Наргасучота павінны неаслабна весці рашучаю барацьбу супроць очкауцірацельства за актуальную і верную лічбу, прыцягваючы вінаватых да суровай адказнасці.

*К. Б.*

## Адказы Райінспектараў Наргасучота.

Рэдакцыя „Інфарм. бюлетэня" звярнулась да некаторых райінспектароў з просьбай выказаць сваю думку адносна тых інспектур, якія зрываюць работу наргасучота ў раёне і якія мерапрыемствы неабходны для узняцця іх работы

Ніжэй друкуем пасобныя адказы райінспектур. Просьба да ўсіх раённых інспектароў наргасучота выказаць сваю думку па гэтаму пытанню.

Лугаўцоў.

Райінспектар Касцюковіцкага раёна.

## Становішча работ у інспектурах НГУ БССР.

Пастаноўка чоткага і вычэрпальнага учота і справаздачнасці у раёне з'яўляецца неабходнымі умовамі для правільнай арганізацыі соцыялістычнай вытворчасці. Аднак, асобныя раённыя інспектуры яшчэ не уяснілі значэння важнасці учота, не паставілі у сябе справу учота так, каб не тармазіць работу усей нашай сістэмы. Шмат інспектур працягваюць зрываць аснаўныя работы, не ужылі сістэму кантроля выканання плана народнай-гаспадаркі з тым, каб высветліць слабае мейсца арганізацыі вытворчасці у адстаючых галінах гаспадаркі і рабіць дастаяніем мае лепшы узор работы перадавых прадпрыемств.

Зрабіць гэта, прызваны у першую чаргу работнікі соцыяліссычнага учота. Мы павінны на аснове канкрэтнага вывучэння складаемых планаў і іх ажыццяўлення, языком точных лічб і поўнага знання вытворчага жыцця даваць кіруючым работнікам раёна поўныя ладзенныя. Гэта абавязвае работнікаў учота на столькі быць кваліфікаванымі у сваей учотнай справе, но праз учотны актыў, заўсёды праверaць якасць лічб, крэпка унядрыўшы учот у брыгадзе вынікаў, колькасці і якасці яе працы.

Унядрэнне новай тэхнікі і развіцця соцыялістычных форм працы, абавязвае работнікаў учота да сваечасовай і хуткай перабудовы учота, каб ён асвятляў, а не зацемняў новые здвігі і дасягненні вытворчасці.

Для дасягнення гэтага, шмат райінспектур ударна, па бальшавіцку працуюць і зараз яны сталі сапраўднымі арганізатарамі учота ў раёне, дабілісь належнага аўтарытэта ў сістэме Кіраўніцтва Народна-гаспадарча вучоту на раду з гэтым ёсць рэйінспектуры, якія дапусцілі дрэнную пастаноўку учота ў раёне, чым спрыяюць дзейнасці класавага ворага.

Характырызуючы учот якасці работ райінспектур за год, нельга не застанавіцца на наступным:

| Тэрміны: | I катэгорыя | | II катэгорыя | | III катэгорыя | | IV катэгорыя | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік р-наў | % | Лік р-наў | % | Лік р-наў | % | Лік р-наў | % |
| На 1/V-33 г. | 8 | 10,7 | 29 | 38,6 | 25 | 33.4 | 13 | 17,3 |
| На 1/V-34 г. | 6 | 8,0 | 35 | 46,6 | 39 | 38,8 | 5 | 6,6 |

З табліцы відаць, што якасць работы райінспектур у 1934 г. пагоршылась супраць 1933 г. Асабліва павялічылася „III кат". Яны сваім адставаннем усуглубляюць прарывы у рабоце КНГУ. Раёны, якія былі перадавымі на 1/V-33 г. з пазорам здалі пазыцыю на 1/V-34 г. Да перадавых раёнаў вядучых барацьбу за бальшавіцкі учот, ужываючым у сваей рабаце соц. мэтады, адносяцца раёны: Гомель, Касцюковічы, Віцебск.

Што патрэбна для таго, каб палепшыць работу інспектур, каб у нашай сістэме зусім не было пазорнай IV катэгорыі і каб зменшыць III катэгорыю?—для гэтага неабходна ужыць, не толькі вышэй сказанае, а патрэбна, каб з боку КНГУ больш прымаліся рашучыя меры уздзейнічання прыменяя меры матар'яльнага спагнання (змяншэнне зарплаты. пайкоў) і больш аперацыйнага кіраўніцтва, заслухоўваюць справаздачы у КНГУ, прымяняючы зняцце з работы, бо усе захады, якія забяспечваюць пастаноўку добрай работы—інспектурам прадстаўляецца. Тут па моему, дрэнная работа некаторых райінспектур атрымоўваецца неуменнем працаваць, прыкладна: будучы на дапамозе у правядзенні перапіса прамысловасці у Клімавіцкім і Чэрыкаўскім раёнах мною установлена, што там інспектуры працуюць абасоблена ад РВК, апошні не ведае, што робіць інспектар і складаецца ўражэнне, што там няма зусім органаў НГУ, што людзі штампуюць, то што ім даюць, не крытыкуя, не патрабуя мер да адказных асоб зрываючых тэрміны у прадстаўленні учотных дадзенных, не застаўляюць у сябе дадзеных для канцэнтрацыі матар'яла і скарыстання на мейсцы. У Клімавіцкім і Чэрыкоўскім райінспектурах, няма учота жывёлы на 1/I-34 г. і яны зусім не абслугоўваюць раённые арганізацыі і установы справачным матар'ялам. а гэта вялікі мінус у рабоце інспектур. На дрэннаю работу інспектур адзываецца таксама недахопы сродак на гаспадарча-адміністрацыйныя выдаткі. Тут КНГУ эканоміць, дапускае такія вопіюшчыя факты, што калі у

раёне часова неукамплектована адзінка (зволіўся і інш.), то сродкі на гаспадарчыя выдаткі на гэту адзінку, таксама змяншаюцца, тады, калі наадварот гэты від выдаткаў у сапраўднасці павялічваецца. Адсутнічаюць сродкі на выпіску газэт і інш. пераядычныя выданні. Фонды прэміравання, што стымулірують лепшую работу, яны настолькі мізэрны, што зусім не дасягаюць мэты. Адсутнічаюць фонды прэміравання у распараджэння райінспектур для прэміравання лепшых работнікаў сельсаветаў, калгасаў, саўгасаў і прадпрыемств па учоту.

Вось, усе кароткіе заўвагі, якія асвятляюць работу інспектур, але задача работнікаў соцыялістычнага учота, павінна сасрэдаточыцца на далейшым штодзённым павышэнні якасці работ, на выкананне работ дасрочна і у планавыя тэрміны, бо невыкананая работа, або спазнение—зрываюць агульные планы работ усяго КНГУ.

Барысаў

Райінспектар Копыльскага р-на.

## Мае прапановы.

Значную ролю у працы інспектуры адыгрывае уменне арганізаваць тую ці інш. правадзімую учотную працу. Сюды уваходзіць мабілізацыя увагі асноўных выканаўцаў работы і зразумелы ім інструктаж, папулярызацыі важнасці правадзімай работы праз друк, на сходах і г. д. Прымяненне соцмэтадаў працы (соцспаборніцтва і ударніцтва) і вывучэнне учотнага апарату устаноў і арганізацый.

Аўладаўшы гэтым камплексам і у патрэбных выпадках прымяніўшы адпаведныя пастановы Ураду, загадзя улічыўшы мейсцы мажлівых прарываў для аказання ім дапамогі, —інспэкцыя мае поўную магчымасць забяспечыць выкананне работы у тэрміны.

Такім мэтадам, пры непасрэднай дапамозе кіруючых арганізацый раёна, Копыльская інспектура праводзіць работу і у аснову заўсёды кладзе актуальнасць і незыблемую вернасць лічбы і тэрміны.

У парадку самакрытыкі, трэба сказаць, што апошняе (тэрміны) пад час намі за лік якасці і паўнаты матар'ялаў —часткова парушаюцца.

З усяго—вынік: пры жаданні і адданасці справе —тэрміны вызначаемыя кіраўніцтвам могуць быць выкананы.

У адносінах да сваіх сатаварышоў—раённых інспектароў —маючых прарывы і сістэматычна зацягваючых выка-

нанне работ, папярэдня вывучыўшы прычыны невыканання, я прымяніўбы наступныя мерапрыемствы:

1. Пры выяўленні, што невыкананне усецела залежыла ад недбайнасці інспектара—катэгарычна напомніць яму яго палажэнне, якое ён займае у раёне у справе учота і тое мата'ряльна-прававое палепшання умоў, якія створаны яму апошнімі пастановамі Урада.

2. Неузіраючы на папярэднія добрыя паказчыкі работы, пераводзіць у апошнія катэгорыі з матар'яльным уздзейнічаннем (памяншенне зарплаты).

3. Як меры уздзейнічання—ставіць да ведама аб адставанні інспектуры—кіруючыя арганізацыі раёну (РК і РВК), якія у звязку з апошняй пастановай ЦК УсеКП(б) зробяць адпаведнае рэагаванне.

4. Да меры дапамогі і маральнага уздзейнічання устанавіць, што суседняя інспектура, а іх трэба загадзя к адстаючым прымацаваць, выезджае на дапамогу і у выпадку выяўлення гультайства, ігнаравання работы, шэраг акаляючых інспектур павінны, шляхам дасылкі і напамінаючых (ганьбячых) лістоў, прынудзіць выканаць работу.

Пры чым пры падыходзе да ацэнкі працы паасобным інспектур павінен праэдшэстваваць шэраг „прафілактычных" мер, як то: а) добры інструктаж, б) калі трэба, выезд работніка КНГУ у інспектуру, в) пры папярэднім выяўленні магчымых прарываў—вызаў інспектара у КНГУ непасрэдна к начальніку Кіраўніцтва з дакладам аб ужытых мерапрыемствах, забязпечваючых выкананне работ, г) асвятленне хода работ (учот жывёлы, ураджайнасць, перапісы) у цэнтральным друку з паказаннем адстаючых.

І калі усе гэтыя меры не зробіць належнага пераломy, ясная справа, неабходна прымяніць пастанову ЦВК і СНК ад 27/XI-33 г. і здымаць з працы з забаронай працаваць у сістэме учота.

**Леўковіч.**

Інспектар Бабруйскага Раёна.

## Неабходна павысіць якасць работы райінспектур.

Беспрэчна, што з боку КНГУ неабходна прыняць самыя рашучыя меры павышэння якасці работы райінспектур

Меры уздзейнічання могуць быць накіраваны па двум напрамкам: маральныя і матар'яльныя.

Да першага мерапрыемства адносяцца: працягваць і у далейшым апрадзяленне інспектур па катэгорыям з апублікаваннем у інфармацыйным бюлетні, але апрадзяленні па-

вінны быць больш правільнымі, так як бываюць выпадкі, калі самі сектары заблытваюць атрыманне матар'ялу і прыпісваюць прарыў па рабоце тэй ці іншай інспектуры, а з другога боку нельга падыходзіць фармальна да апрадзялення у катэгорыі, а менавіта: у шэрагу інспектур праводзяцца вялізарныя работы мейсцовага значэння (складанне штомесячнай кан'юнктуры і г. д.), паказаная работа адымае у інспектара шмат часу, бо справа не заключаецца толькі у складанні кан'юнктуры, напрыклад, па прамысловасці у сваім габінеце, але неабходна склікаць нарады планавікоў і кіруючых работнікаў раёна; зараз наша інспектура працуе над вывучэннем склада рабочых па трох прадпрыемствах; праводзіцца праверка становішча ўчота ў нарыхтоўчых арганізацыях, пры садзейнічанні інспектуры і бюро ВОСУ, калгасы пераводзяцца на падвойную сыстэму учота.

Усё гэта гаворыць аб тым, што жыццё патрабуе ад нас інспектароў наргасучота не быць замкнутымі, а стаць карыснымі і раённым арганізацыям-адсюль і умовы работы, адсюль і мейсца інспектуры у раёне і г. д. Але вось гэта галоўнае пры апрадзяленні у катэгорыі і не ўлічваецца.

Далей па пытанні маральнага уздзейнічання - прапаную арганізаваць у інфарм. бюлетні чорную дошку з занясеннем зрыўшчыкаў работы і адначасова дошку для лепшых.

Таксама прапаную арганізаваць конкурс на лепшую інспектуру з выпрацаваннымі паказчыкамі і г.д.

Нарэшце інспектар, які дабіўся. поспехаў у сваей рабоце павінен асведаміць праз інф. бюлетэнь, якімі мэтадамі ён правадзіў работу.

Што датычыцца матар'яльнага уздзейнічання- прапаную наступнае:

Кожнаму начальніку сектара арганізаваць прэміальны фонд і кожнаму інспектару, прадставіўшаму добраякасны матар'ял датэрмінова-выплаціць пэўную прэмію, а кожнаму спазніўшамуся з дастаўкай матар'ялу-вылічваць пэўную суму з зарплаты за кожны пратэрмінованы дзень з устаноўкай безумоўна максымум вылічэння.

---

## Участковая інспэктура ў барацьбе за пастаноўку первічнага учота ў сельсаветах.

(Па матар'ыялам Касцюковіцкай Райінспектур).

Участковым інспектарам т. Купреевым (Касцюковіцкі раён) была праверана становішча первічнага учота ў Царковіцкім с./савеце. У выніку гэтай праверкі выяўлена, што

сакратар сельсавета т. Кляўс і рахункавод т. Васілеўскі фактычна сарвалі увядзенне учота па новым кнігам, асабліва па кнігам ф. № 1 і 3 і дапусцілі заблытанасць учота неглядзячы на тое, што сельсавет быў сваечасова забеспечан кнігамі, фармулярамі і інструкцыямі.

Разглядаючы такія адносіны работнікаў Царковіцкага сельсавета да справы учота па новым формам, як злостнае невыкананне пастаноў Ураду і свядомае заблытанне учота, Касцюковіцкая райінспектура Наргасучота накіравала справу пракуратуры для прыцягнення работнікаў Царковіцкага сельсавета да суровай адказнасці.

Рашучая барацьба за правільную пастаноўку первічнага ўчота ў сельсаветах з'яўляецца асноўнай работай участковага інспектара. Тав. Купрэяў зразумеў важнасць пастаноўкі учота ў сельсаветах і зусім правільна павёў рашучаю барацьбу супроць зрыўшчыкаў сельсавецкага учота.

Дабіцца правільнай пастаноўкі учота ў сельсаветах — абавязак кожнага раённага і участковага інспектара Наргасучота.

*К. Б.*

---

Зацверджаю:
Нам. Нач. Кіраўніцтва Наргасучота БССР
т. КАЦНЕЛЬСОН.

28/IX-1934 г.

# Сетка

## участковых інспектур па раёнам

**48. Чашнікі.**

1-ы участак—Замоцкі (цэнтр), Стражавіцкі, Лукамельскі, Чарэйскі, Следчанскі, Вяцерскі, Лазукоўскі.
2-гі „ —Чашніцкі (цэнтр), Пачаевіцкі, В. Альшанскі, Вяжоўскі, Іванеўскі, Гілянскі, Дзворыцкі, Цяпінскі.

**49. Прапойск.**

1-ы участак—Рабавіцкі (цэнтр), Іванішчавіцкі, Целяшоўскі, Гіжанскі, Лапаціцкі, Кульшчыкі, Прапойскі
2-гі „ —Чэрнякоўскі (цэнтр), Каменскі, Старынскі, Гайшынскі, Рэкцянскі, Рагінскі, Ржаўскі, Васькаўскі.

**50. Чэрыкаў.**

1-ы участак—Чэрыкаўскі горсавет (цэнтр), Мірагашчанскі, Ушакоўскі, Зябенскі, Халмянскі, Ветрынскі, Рэчыцкі, Глінскі.
2-гі „ —Лабаноўскі (цэнтр), Язэрскі, Рынкаўскі, Шараеўскі, Каменскі, Верамейскі, Горкаўскі.

**51. Ветка.**

1-ы участак—Калінінскі (цэнтр), Сівенскі, Дзямянкаўскі, Ачэса-Руднянскі, Марінскі, Тарісаўскі, Рудня, Споніцкі, Бесядскі.
2-гі „ —Нова-Грамыцк (цэнтр), Неглюбскі, Стаўбунскі, Янкаўскі, Мала-Нелькаўскі, Стара-Закружскі, Рудня-Стаўбунскі, Барталамееўскі.
3-ці „ —Свяцілаўскі (цэнтр), Балсунскі, В-Немкаўскі, Жалезніцкі, Якшынскі, Хізаўскі, Рэчкаўскі, Ухаўскі.
4-ы „ —Шарсцінскі (цэнтр), Прыснянскі, Данілаўскі, Радускі, Хальчанскі, Старасельскі, Рудня-Шлягінскі.

52. Глуск.

1-ы участак—Карпілаўскі (цэнтр), Гацкі, Аземлянскі, Перакальскі, Бярозаўскі, Каўдкаўскі, Глускі.
2-гі „ —Ляскавіцкі (цэнтр), Парэцкі, Герм-Слабодзкі, Загальскі, Слаўковіцкі, Дакольскі Клетнянскі.
3-ці „ —Гарадкоўскі (цэнтр), Сіманавіцкі, Макавіцкі, Жаўвінецкі, Казловіцкі, Хвастравіцкі.

53. Лагойск.

1-ы участак—Лагойскі (цэнтр), Кузевіцкі, Астрашыцкі, Падонкаўскі, Юркавіцкі, Швабскі.
2-гі „ —Гагінскі (цэнтр), Каранскі, Слабадзкі, Прудзішчанскі, Беларуцкі, Янушкавіцкі, Бяседзкі, Калачоўскі.

54. Магілеў.

1-ы участак—Цішаўскі (цэнтр), Сялецкі, Черназемаўскі, Дашкаўскі, Дасовіцкі, Краснапольскі, Палыкавіцкі.
2-гі „ —Княжыцкі (цэнтр), Новаселаўскі, Вішаўскі, Рафалаўскі, Бракаўскі, Пашкаўскі. Гаранскі.
3-ці „ —Вендароскі (цэнтр), Бялевіцкі, Гарадзішчанскі, Добрасневіцкі, Хонаўскі, Гуслішчанскі, Хрыпялеўскі.
4-ы „ —Гребянеўскі (цэнтр), Таранаўскі, Мастоцкі, Слaрадзкі, Шчажарскі, Машанацкі, Мохаускі, Амхоўскі.

55. Чэрвень.

1-ы участак—Хутарскі (цэнтр), Лядзенскі, Горкаўскі, Грабянецкі, Калодзецкі, Раваніцкі.
2-гі „ —Грабенскі (цэнтр), Кліноцкі, Велевацкі, Руднянскі, Дамавіцкі, Вайнілоўскі.

56. Дрыса.

1-ы участак—Дрысенскі (цэнтр), Бігосаўскі, Росіцкі, Сар'янскі, Сардыкаўскі, Каркалецкі, Жоўніцкі. Цясгаўскі.
2-гі „ —Валынецкі (цэнтр), Прудзінкаўскі, Галубоўскі, Юзэфаўскі Дзярнавіцкі, Барковіцкі, Дуначарскі.

57. Копыль.

1-ы участак—Копыльскі м|с (цэнтр), Ланцуцкі, Пацэйкаўскі, Стара-Копыльскі, Бабоўнянскі, Пясочнянскі.
2-гі „ —Цімкавіцкі (цэнтр), м|с (цэнтр), Прускі, В. Раеўскі. Браткаўскі, Крываселкаускі, Лешнянскі, Быстрыцкі, Ванелевіцкі.
3-ці „ —Грозаўскі м|с (цэнтр), Вялешынскі, Старыцкі, Пухаўскі, Труханавіцкі, С.-Кучынскі.

58. Асіпавічы.

1-ы участак—Лапіцкі (цэнтр), Градзянскі, Пагарэльскі, Зборскі, Верайцоўскі, Дзераўкаўскі, Асіпавіцкі.
2-гі „ —Свіслацкі (цэнтр), Янаўскі, Ліпенскі. Касянскі, Ясенскі, Карытнянскі, Замоскі.

59. Крупкі.

1-ы участак—Абчугскі (цэнтр), Заборскі, Дубаўскі. Смарадзінскі. Бобрскі, м|с, Бобрскі,

2-гі „ —Крупскі м|с (цэнтр), Сакаловіцкі, Шынкаўскі, Ухвальскі, Старaслабодзкі, Крупскі, Шэйкаўскі, Нацкі, Выдрыцкі.
3-ці „ —Халопеніцкі (цэнтр), Траянеўскі, Грыцкавіцкі, Узнацкі. Хацюхоўскі, Ігрушаўскі, Жаберыцкі, Хальнeвіцкі.

**60. Карма.**

1-ы участак—Журавіцкі (цэнтр), Каменскі, Балотнянскі, Бычанскі, Задубскі, Барсукоўскі
2 гі „ —Струкачоўскі (цэнтр), Варавоўскі, Расохскі, Барава-Будзкі Хізаўскі, Караццоўскі, Куракоўшчынскі.
3-ці „ —Ліцвінавіцкі (цэнтр), Хлеўнянскі, Руднянскі, Струменскі, Валынцоўскі, Кармянскі м|с.

**61. Крычаў**

1-ы участак—Паланіцкі (цэнтр), Маляціцкі, Баеўскі, Бацвінапскі, Кашынскі, Бельскі,
2-гі „ —Крычаўскі м с (цэнтр), Зарубецкі, Міхеевіцкі, Сакольніцкі Касцюшкавіцкі, Веранеўскі.

**62. Сіроціна.**

1-ы участак—Сірошінскі (цэнтр), Старынаўскі, Мішнявіцкі, Казнянскі, Шумілінскі.
2-гі „ —Лаўжанскі (цэнтр), Спаскі, Обальскі, Клетчанскі, Баранкаўскі, Мішкаўскі.
3-ці „ Пагарэліцкі (цэнтр), Заронаўскі, Жарэбіцкі, Амбросаўскі Дабейскі.

**63 Бялынічы,**

1-ш участак—Галоўчынскі (цэнтр), Нежкаўскі, Кудзінскі, Шылаўскі, Ланькаўскі, Бялыніцкі, м|с.
2-гі „ —Калінаўскі (цэнтр), Угальшчынскі, Запольскі, Машчанскі Прыхабскі, Ф,-Конаўскі.
3-ці „ —Шапялеўскі (цэнтр), Цяцерынскі, Сіманавіцкі, Стаінскі Кулакоўскі, Эсманскі.

**64. Брагін.**

1-ы Участак—Крыўчанскі (цэнтр), Хракавіцкі, Малажынскі, Малейкаўскі. Лубяніцкі, Савіцкі, В.-Слабодзкі.
2-гі „ —Астраглядаўскі (цэнтр), Спярыскі. Глухавіцкі, Буркаўскі. Мікуліцкі, Шкуратоўскі, Брагінскі.

**65. Асвея.**

1-ы участак—Сенькаўскі (цэнтр), Савейкаўскі, Сухарукаўскі, Красоўскі, Асвейскі.
2-гі „ —Задзежынскі (цэнтр), Коханаўскі, Малашкаўскі, Кісялеўскі.

**66. Рагачоў.**

1-ы участак—Ціхініцкі (цэнтр), Асажіцкі, Крушынскі, Запольскі, Азяранскі, Дварэцкі, Побалаўскі, Лучынскі, Забалоцкі.
2-гі „ —Гарадзецкі, (цэнтр), Гадзілавіцкі, Меркулявіцкі, Курганскі. Прыбарскі, Стоўпнянскі, Вішенскі, Свяцкі, М. Стралкоўскі,
3-ці „ —Кісцянеўскі (цэнтр), Старасельскі, Станькаўскі, Мадорскі, Свержанскі, Доўскі, Збароўскі.

67. **Горкі.**

1-ы участак—Дрыбінскі (цэнтр), Пакуцянскі, Карэбскі, Гасподаўскі, Клядневіцкі, Чурылаўскі, Паршынскі, Горскі, з||с

2-гі „ —Чарнянскі (цэнтр), Бельскі, Жданаўскі, Любіцкі, Гарадзецкі, Маслакоўскі, Ліхачэўскі, Панкратаўскі.

3-ці „ —Ленінскі (цэнтр), Шарыпскі, Макараўскі, Асталопаўскі, Каменскі. Кацялеўскі, Рэкцянскі, Горскі.

68. **Камарын.**

1-ы участак—Крукаўскі (цэнтр), Баршчаўскі, Радзінскі, Сцяпанаўскі. Калыбанскі, Капарынскі, Перкаўскі.

2-гі „ —Ельчанскі (цэнтр). Чыкалавіцкі, Гдзенскі. Ніжня-Жароўскі Верхня-Жароўскі, Лукаедаўскі, Камарынскі. Асарэвіцкі

69. **Заслаўль.**

1-ы участак—Гатовінскі (цэнтр), Заслаўскі, Янусінскі, Навадворскі, Трэскаўскі, Старасельскі.

2-гі „ —Рогаўскі (цэнтр), Слабодзкі. Шаршунскі, Шапялеўскі, Гатовінскі, С. Гарадецкі.

---

## Якасць работы Райінспектур

на 1 кастрычніка 1934 г.

| №№ Катэгор. | Раён | Па якім работам маецца прарыў |
|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 |
| 1 | Барысаў | Натуральны рух насельніцтва. |
| 1 | Буда-Кашалёва | Учот фандаў зарплаты. |
| 1 | Бешанковічы | Прарываў няма |
| 1 | Віцебск | „ „ |
| 1 | Копыль | „ „ |
| 1 | Сіроціна | Учот фандаў зарплаты. |
| 2 | Асіпавічы | Натуральн. рух насельн., учот фандаў зарплаты |
| 2 | Бабруйск | „ „ „ „ „ „ |
| 2 | Бялынічы | Укамплект. участков. інспек., разб. раен. па учасг. |
| 2 | Бярэзіна | Учот фандоў зарплаты. |
| 2 | Ушачы | Натур рух насельніцтва. |
| 2 | Ветка | Учот фандоў зарплаты. |
| 2 | Гомель | Натур. рух насельн., учот фандоў зарплаты. |
| 2 | Дрыса | Натур. рух насельн., учот фандоў зарплаты. |
| 2 | Дуброўна | „ „ „ „ „ „ |
| 2 | Заслаўль | Натур. рух насельн.. разб. раена на участкі |
| 2 | Касцюковічы | „ „ „ учот фандоў зарплаты. |
| 2 | Крупкі | Учот фанд. зарпл., рэгістрацыя будаўніцтва. |
| 2 | Клічаў | Натур. рух насельн., учот фандоў зарплаты. |
| 2 | Карма | Учот фандоў зарплаты, бюджэты калгаснікаў. |
| 2 | Лепель | Учот фандоў зарплаты. |
| 2 | Любань | Натуральны рух насельніцтва. |
| 2 | Лоеў | Натур. рух населн., учот фандоў зарплаты. |
| 2 | Лельчыцы | Натур. рух насельн., учот фандоў зарплаты. |
| 2 | Люзна | Учот фандоў зарплаты. |
| 2 | Мсціслаўль | Натур. рух насельн., учот фандоў зарплаты. |
| 2 | Орша | Натур. рух насельніцтва. |
| 2 | Прапойск | Натур рух насельн., учот фандоў зарплаты. |
| 2 | Смалявічы | Натур. рух насельн., учот фандоў зарплаты. |
| 2 | Сураж | Натур. рух насельніцтва |
| 2 | Старыя Дарогі | Учот фандоў зарпл., рэгістрацыя будаўніцтва. |
| 2 | Старобін | Учот фандоў зарплаты. |
| 2 | Слуцк | Натур. рух насельн., учот фандоў зарплаты. |
| 2 | Сенно | Натур. рух насельн., учот фандоў зарплаты. |
| 2 | Талачын | „ „ „ „ „ „ |
| 2 | Тураў | Учот фандоў зарплаты. |
| 2 | Уваравічы | „ „ „ |
| 2 | Чэрыкаў | „ „ „ |
| 2 | Чачэрск | Разб. раена на участ., учот фандоў зарплаты. |
| 2 | Шклоў | Натур. рух насельніцтва. |
| 3 | Бягомль | Разб р-на на участ. натур. рух насельн. рэг. буд-ва |

| №№ Катэгор. | Раён | Па якім работам маецца прарыў |
|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 |
| 3 | Глуск | Натур. рух насельн., учот фандоў зарплаты. |
| 3 | Гарадок | Укамплект. участ. інспектароў, натур. рух насельніцтва, учот фандоў зарплаты. |
| 3 | Ельск | Натур рух насельніцтва, учот фандоў зарплаты рэгістрацыя будаўніцтва. |
| 3 | Жлобін | Укамплект. раен інспек. натур. рух насельн., учот фандоў зарплаты. |
| 3 | Крычаў | Натур рух насельн., учот фандоў зарплаты, рэгістрацыя будаўніцтва. |
| 3 | Краснаполле | Натур рух насельн учот фандоў зарпл. рэг. буд-ва |
| 3 | Лагойск | „ „ „ „ „ „ „ „ |
| 3 | Менск | Укамплект., участ. інспектароў, натур. рух насельн., рэг., буд-ва, учот фандоў зарплат. |
| 3 | Мазыр | Укамплект. участ. інспек. натур. рух насельн., учот фандоў зарплаты. |
| 3 | Магілёў | Укамплект. участ. інспектароў, натур. рух насельн., учот фандоў зарплаты. |
| 3 | Парычы | Натур. рух насельн. учот фанд. зарпл., рэг. буд-ва |
| 3 | Пухавічы | Натур рух насельн, учот фанд. зарпл, рэг. буд-ва |
| 3 | Расоны | Укамплект. участк. інспектароў, натур, рух насельн. учот фандоў зарплаты. |
| 3 | Рэчыца | Натур рух насельн. учот фанд. зарпл. рэг. буд-ва |
| 3 | Узда | Укамплект. участк. інспектароў, учот фандоў зарплаты. |
| 3 | Хойнікі | Укампл. участ. інспек. уч. фанд. зарпл. рэг. буд-ва |
| 3 | Цэрахаўка | Натур. рух насельн., учот фандоў зарплаты. |
| 3 | Чэрвень | Укамплект. участк. інспектароў учот фанд. зарпл. |
| 3 | Чырвоная-Слабада | „ „ „ натуральны рух насельніцтва, учот фандоў зарплаты. |
| 4 | Чашнікі | Укамплект. участковых інспектароў. |
| 4 | Ясвея | Прарывы па ўсім асноўным работам. |
| 4 | Браін | „ „ „ „ „ |
| 4 | Врагін | „ „ „ „ „ |
| 4 | Быхаў | „ „ „ „ „ |
| 4 | Дзяржынск | „ „ „ „ „ |
| 4 | Горкі | „ „ „ „ „ |
| 4 | Жыткавічы | „ „ „ „ „ |
| 4 | Камарын | „ „ „ „ „ |
| 4 | Клімавічы | „ „ „ „ „ |
| 4 | Нароўля | „ „ „ „ „ |
| 4 | Полацк | „ „ „ „ „ |
| 4 | Плешчаніцы | „ „ „ „ „ |
| 4 | Петрыкаў | „ „ „ „ „ |
| 4 | Рагачоў | „ „ „ „ „ |
| 4 | Чаусы | „ „ „ „ „ |

Рэдкалегія; *Арцямкоў.*
*Голант.*
*Магідаў.*

Ядказны рэдактар *В. Магідаў.*



